

# НіВА



БЕЛАСТОК, 19 ЛЮТАГА 1956 г.

## КОМУНІСТЫ, НАПЕРАД!

*Мае гэткія словы*
*Загад баявы,*
*На якія адно толькі ў цяжкім баю*
*(Ды і то не заўжды)*
*Агрымае правы*
*Камандзір,*
*Падымаючы роту сваю.*

*Мудры статут вайсковы*
*Дайно я спасціг,*
*Білі ў твар*
*Не аднойчы мне*
*Шротам вятры,*
*Ды нідзе*
*На старонках*
*Статутаў-кніг*
*Слоў такіх*
*Не знайшоў я*
*Да гэтай пары.*

*Год дваццаты.*
*Запыленых коней галоп.*
*Перакоп.*
*Эшалоны.*
*Ды тыфусны мрок.*
*Інтэрвенцкая куля, што меціць у лоб.*
*Пад шалёным агнём*
*Не прайсці ні на крок...*
*Полк*
*З акопаў*
*На дрот*
*Шынялі накідаў.*
*Але б'е кулямёт. Здэцца лівень — сцяной.*
*І падняўся тады*
*Камісар*
*І сказаў:*
*— Комуністы, наперад! Комуністы за мной!*

*Мае гэткія словы*
*Загад баявы,*
*Што не знаюць*
*Ніякіх*
*Нідзе*
*Перашкод.*
*Ёсць*
*Вышэй, чым законы,*
*Такія правы,*
*Што, як права вышэйшае,*
*Носіць народ.*

*Падлічылі штандарты пабітых дзяржаў.*
*Цераз рэкі*
*Мільёны*
*Плацін навялі.*
*І, рукою мазольнай*
*Зацяўшы штурвал,*
*Падымалі цалік*
*На абшарах зямлі.*
*І была нейк прабіта*
*Плаціна адна,*
*Раскрышыла бетонны заслон на Дняпры,*
*І пайшлі*
*Галаўныя брыгады*
*Да дна,*
*Пад сцюдзёныя хвалі*
*На зімняй зары.*
*І калі нехапала*
*«...Прадпісаных мер...»*
*Залівала сталы з чарцяжамі вадой, —*
*Прад рабочымі ўстаў і сказаў інжынер:*
*— Комуністы, наперад! Комуністы, за мной!*

*Летняй раніцай*
*Цішу*
*Узарваў дынаміт,*
*Па-над Бугам*
*Застава залегла ля стром.*
*«Месершміты» свінцом распаролі блакіт,*
*І дыміцца зямля, і не ўстаць пад агнём.*
*Мы палілі масты*
*Па дарогах к Маскве,*
*І на бежанцаў*
*Глянуць спакойна хто мог?*
*Высыхала раса*
*На гарматах «КВ»,*
*Закапаных між буйных жытоў у палёх.*
*І, без кожуха,*
*З веж Сталінграда святых*
*Біў «максім»,*
*І Радзімцаў лёд мацаў нагой,*
*І прыўстаў, і сказаў камандзір у той міг:*
*— Комуністы, наперад! Комуністы, за мной!*

*Мы сарвалі штандарты*
*Фашысцкіх дзяржаў,*
*А сцягі*
*Сваёй славы*
*Праз свет праняслі.*
*Як свой лёс,*
*Родны сцяг*
*Мужны воін трымаў,*
*Калі ў Маі*
*Каля Маўзалея мы йшлі.*

*Пад зімовымі хмарамі —*
*Вецер і снег,*
*Але пахне*
*Гарачым жалезам зямля.*
*Набліжаецца дзень.*
*Прадаўжаецца век.*
*Серабрацца штыкі*
*Вартавых ля Крэмля.*

. . . . . . . .

*Але скрозь —*
*Дзе скрыжованы трасы свінца,*
*А ці там,*
*дзе кіпенне вялікіх работ,*
*Праз вякі,*
*на вякі,*
*назаўжды,*
*да канца:*
*Комуністы, наперад! У слаўны паход!*

АЛЕКСАНДР МЕЖЫРАЎ

### У НУМАРЫ



ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА — КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



